# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года ● № 4 (733) ● 4 лютага 1994 г. ● Цана 25 руб.


## СВЯТОЧНАЯ ВЕЧАРЫНА НАВУКІ

27 студзеня ў памяшканні Дзяржаўнага вялікага тэатра оперы і балету адбылося святкаванне першага Дня беларускай навукі. У прэзідыуме — кіраўнікі навуковых устаноў Беларусі, дэпутаты Вярхоўнага Савета, адказныя работнікі Міністэрства адукацыі.

Урачыстае пасяджэнне адкрыў намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларусі член-карэспандэнт АНБ М. І. Дзямчук. Ён прадаставіў слова акадэміку Л. М. Сушчэню. У грунтоўным дакладзе прэзідэнта АНБ быў дадзены аналіз цяперашняга становішча беларускай навукі, намечаны перспектывы яе далейшага развіцця.

Тэкст даклада акадэміка Л. М. Сушчэні будзе выкладзены ў бліжэйшым нумары.

Тэатр оперы і балета ў Дзень беларускай навукі зрабіў навукоўцам цудоўны падарунак — быў паказаны балетны спектакль «Рамэа і Джульета».

(Ад уласнага карэспандэнта).

*У ПРЭЗІДЫУМЕ АНБ*

## СТВОРАН НОВЫ ІНСТЫТУТ

28 студзеня адбылося першае ў новым годзе пасяджэнне прэзідыума акадэміі. Пачалося яно з урачыстага акту — уручэння дыпломаў лаўрэатам прэмій Акадэміі навук Беларусі 1993 г. за лепшыя навуковыя работы. Дыпломы ўручаў прэзідэнт АНБ акадэмік Л. М. Сушчэня.

Першаму ён прадаставіў слова галоўнаму вучонаму сакратару АНБ акадэміку А. М. Ганчарэнку, які ў агульных рысах ахарактарызаваў планы навукова-даследчых работ акадэміі і іх фінансаванне. Паколькі сродкі недастатковыя, прапануецца актывізаваць гаспадарчадагаварную, прадпрымальніцкую і іншую работу.

Па прадстаўленню акадэміка В. С. Буракова прынята рашэнне аб пераўтварэнні Віцебскага аддзялення Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў у інстытут.

Віцэ-прэзідэнт АНБ акадэмік Р. Г. Гарэцкі прапанаваў у сувязі з уходам кіраўніка спраў В. Ф. Вараньво на іншую работу, перагледзець палажэнне аб гэтай пасадзе. Прапанавана назва «намеснік прэзідэнта — кіраўнік спраў», з мэтай палышэння паўнамоцтваў на вытворчыя арганізацыі і камерцыйныя структуры АНБ. На гэты пост аднагалосна абраны В. В. Максіменка, былы дырэктар ЦКБ з доследнай вытворчасцю АНБ.

Зацверджаны таксама новыя намеснікі дырэктараў некаторых інстытутаў АНБ і вучоныя сакратары.

У. ТРАЦЦЯКОЎ.

*НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ*

## ЁСЦЬ НАДЗЕЯ!

**Былі часіны, калі супрацоўнік газеты мог напярэдадні любога свята смела пытацца ў навукоўцаў: «З якімі пачуццямі вы сустракаеце гэты дзень?» Зараз жа ў адказ ёсць шанц пачуць адны скаргі...**

**Аднак у свята ўсё ж хочацца думаць аб нечым светлым, выклікаючым дадатныя эмоцыі, тым больш у такое свята — Дзень беларускай навукі, што першы раз адзначаецца.**

**— Ці бачыце вы перамены да лепшага ў сваёй працы? Ці можаце сказаць нешта такое, каб святочны настрой узняўся? Якія ў вас ёсць падставы для аптымізму? Калі ласка, падзяліцеся імі з чытачамі «Навін».**

**З падобнымі пытаннямі я звяртаўся да супрацоўнікаў АНБ з розных інстытутаў. Вось што яны адказвалі.**

**Генадзь Аляксандравіч НЕСВЕТАЙЛАЎ**, *доктар сацыялагічных навук, загадчык аддзела сацыялогіі навукі Інстытута сацыялогіі:*

— Я — аптыміст па натуры. Але заўсёды правяраю свой



аптымізм рэалізмам. У выніку такога спалучэння атрымліваецца вывад: будучае беларускай навукі цудоўнае. Застаецца толькі ўдакладніць, ці маюць да яе дачыненне словы Някрасава: «Жаль только — жить в эту пору прекрасную...»

У цяперашній сітуацыі аптымізм звязаны са старэйшым пакаленнем вучоных, якія, нягледзячы на беднасць і іншыя цяжкасці, застаюцца вернымі навуковым ідэалам свайго юнацтва і працягваюць навуковую дзейнасць.

Што ж тычыцца заўтрашняга дня, то мой аптымізм звязаны з будучым пакаленнем маладых вучоных, якія прыдуць у навуку ў пачатку наступнага стагоддзя.

Гэта цікавая тэма — змены пакаленняў у навуцы — становіцца тэмай даследаванняў нашага аддзела.



**Васіль Нікіфаравіч КАМКОЎ**, *кандыдат эканамічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі:*

— Нам без аптымізму нельга — мы працуем на будучыню, ствараем матэматычныя мадэлі эканомікі. У цяперашнім часе на іх попыту яшчэ няма. Але пройдзе час, да кіраўніцтва дзяржавай прыйдуць новыя людзі, з пашанай да навукі, і тады наша праца будзе на карысць дзяржаве.

**Група мадэлявання эканомікі за работай. Злева направа: Алена РАЗАНАВА, навуковы супрацоўнік; Ірына ФІЛІПЧАНКА, стажор-даследчык; В. Н. КАМКОЎ, кіраўнік групы.**



**Людміла Міхайлаўна ШАЙКО**, *кандыдат біялагічных навук, вучоны сакратар Інстытута фотабіялогіі:*

— Падставы ёсць. Канешне, «надежда умирает последней», «надежды юношей питают» — гэта ўсё правільна. Але я так проста мяркую: павінна ж калісьці ўсё вярнуцца ў патрэбнае рэчышча. Ды і повады для радасці, хоць і маленькай, а ўсе ж бываюць. Напрыклад, паехаў хтосьці з нашых супрацоўнікаў за мяжу, прывёз рэактывы, якія зараз — нават калі грошы маеш — не заўсёды можна набыць. Або хтонебудзь таксама з замежжа — не прасілі, сам здагадаўся! — колькі часопісаў навуковых прывёз! Адсюль вывад напрошваецца: супрацоўнікаў нашага інстытута часцей за мяжу трэба накіроўваць, і справы ў нас значна лепш пойдуць.




**Міхаіл Міхайлавіч ПІКУЛІК**, *доктар біялагічных навук, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута заалогіі:*

— Аптымізм навявае ўжо той факт, што Беларусь падпісала пагадненне ў Рыа-дэ-Жанейра ў 1992 годзе, дакладней канвенцыю, аб захаванні біялагічнай разнастайнасці. Яна ўжо ратыфікавана нашым Вярхоўным Саветам. Гэта — светлы прамень для нас. Значыць, будзе падтрымка дзяржавы, ну а мы зробім належнае — дадзім навуковае забеспячэнне. Тут і для фундаментальных даследаванняў ёсць меса, і для прыкладных. Ёсць погляды на канвенцыю дзяржаўны — і наш (з пункту гледжання навукі). І адпаведныя работы ўжо вядуцца. На гэты год у нас запланавана VII рэспубліканская заалагічная канферэнцыя.

Мы спадзяемся на тое, што дзяржаўныя структуры зразумеюць значнасць захавання ўсяго жывога. Выйшла з друку наша «Чырвоная кніга». Падагаловак у яе сумны: «Віды жывёл рэдкія і тыя, што знікаюць», але тое, што наша шматгадовая праца ўбачыла свет, нас радуе.



**Уладзімір Іванавіч САРВАНАЎ**, *кандыдат фізіка-матэматычных навук, загадчык аддзела матэматычнай кібернетыкі:*

— Я, калі аптыміст, дык песімістычны. «Хай хоць горш, толькі інакш», як гаворыцца. Такім «горш» можа быць расфарміраванне акадэміі. Падобнага «інакш», канешне, не хочацца. Ну, а тое-сёе ўсё-такі часам радуе: амерыканскія матэматыкі да нас прыязджалі, у міжнародным часопісе артыкул друкуецца, вёрстку вось раблю...



**Марыя Васільеўна КАЎТУНЕНКА**, *вахцёр у Інстытуце матэматыкі:*

— Канешне ж, я аптымістка. Усё ў нас наладзіцца, усё абыдзецца. Наша навука працу, у свеце не ведаюць. Я пенсіянерка, добра забяспечаная. Мне падабаюцца людзі, з якімі я кожны дзень сустракаюся, вітаю іх і праваджаю. І так ужо адзінаццаты год.

Запісаў Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.
Фота Мікалая БУДЧАНІНА.

# ЗАРЭГІСТРАВАНЫЯ

## КАНДЫДАТЫ Ў АКАДЭМІКІ І ЧЛЕНЫ-КАРЭСПАНДЭНТЫ АНБ

### АД АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ

**Акадэмія навук Беларусі, у адпаведнасці з п. 18 яе Статута, паведамляе імёны зарэгістраваных кандыдатаў у акадэмікі і члены-карэспандэнты АНБ, вылучаных саветамі навуковых устаноў і вышэйшых навучальных устаноў, акадэмікамі і членамі-карэспандэнтамі Акадэміі навук Беларусі на вакансіі, аб'яўленыя ў газетах «Звязда» і «Советская Белоруссия» 11 снежня 1993 г.**

### КАНДЫДАТЫ Ў АКАДЭМІКІ:

***АДДЗЯЛЕННЕ ГУМАНІТАРНЫХ НАВУК***

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ГІСТОРЫЯ»**

**БІЧ** Міхаіл Восіпавіч — доктар гістарычных навук

**КАСЦЮК** Міхаіл Паўлавіч — член-карэспандэнт

**КОШАЛЕЎ** Уладзімір Сяргеевіч — доктар гістарычных навук

**ПЕТРЫКАЎ** Пётр Ціханавіч — член-карэспандэнт

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ЛІТАРАТУРА»**

**ШАМЯКІН** Іван Пятровіч — член-карэспандэнт

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА»**

**КАВАЛЕНКА** Віктар Антонавіч — член-карэспандэнт

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «МОВАЗНАЎСТВА»**

**ПАДЛУЖНЫ** Аляксандр Іосіфавіч — член-карэспандэнт

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ФІЛАСОФІЯ»**

**БАБОСАЎ** Яўген Міхайлавіч — член-карэспандэнт

**ЖУКАЎ** Мікалай Іванавіч — доктар філасофскіх навук

**КОНАН** Уладзімір Міхайлавіч — доктар філасофскіх навук

**МАЙХРОВІЧ** Альфрэд Сцяпанавіч — доктар філасофскіх навук

**САВАСЦЮК** Антон Іванавіч — член-карэспандэнт

**ЯЎМЕНАЎ** Леанід Фёдаравіч — член-карэспандэнт

***АДДЗЯЛЕННЕ БІЯЛАГІЧНЫХ НАВУК***

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «БІЯФІЗІКА»**

**КОНЕЎ** Сяргей Васільевіч — член-карэспандэнт

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «МЕДЫЦЫНА»**

**РУЦКІ** Аляксандр Уладзіміравіч — член-карэспандэнт

**СІДАРЭНКА** Георгій Іванавіч — член-карэспандэнт

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСІ «ФІЗІЯЛОГІЯ ЧАЛАВЕКА І ЖЫВЁЛ»**

**АРЫНЧЫН** Мікалай Іванавіч — член-карэспандэнт

**ГУРЫН** Валерый Мікалаевіч — член-карэспандэнт

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ФОТАБІЯЛОГІЯ РАСЛІН»**

**ВАЛАТОЎСКІ** Ігар Дзмітрыевіч — член-карэспандэнт

***АДДЗЯЛЕННЕ ХІМІЧНЫХ І ГЕАЛАГІЧНЫХ НАВУК***

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «АРГАНІЧНАЯ ХІМІЯ»**

**МАЙЕР** Мікалай Арцем'евіч — член-карэспандэнт

**СТРАЛЬЧОНАК** Алег Анатольевіч — член-карэспандэнт

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «БІЯГЕАХІМІЯ»**

**БАМБАЛАЎ** Мікалай Мікалаевіч — член-карэспандэнт

**ЛУКАШОЎ** Валянцін Канстанцінавіч — член-карэспандэнт

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ГЕАЛОГІЯ»**

**МАЦВЕЕЎ** Аляксей Васільевіч — член-карэспандэнт

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ФІЗІЧНАЯ ХІМІЯ»**

**КАПУЦКІ** Фёдар Мікалаевіч — член-карэспандэнт

***АДДЗЯЛЕННЕ ФІЗІКА-ТЭХНІЧНЫХ ПРАБЛЕМ МАШЫНАБУДАВАННЯ І ЭНЕРГЕТЫКІ***

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «МАШЫНАБУДАВАННЕ»**

**БЕРАСТНЕЎ** Алег Васільевіч — член-карэспандэнт

**ВІЦЯЗЬ** Пётр Аляксандравіч — член-карэспандэнт

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «МЕХАНІКА»**

**ДАБРАЛЮБАЎ** Анатоль Іванавіч — доктар тэхнічных навук

**КАЛАВАНДЗІН** Барыс Андрэевіч — член-карэспандэнт

**ПЛЕСКАЧЭЎСКІ** Юрый Міхайлавіч — член-карэспандэнт

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ТЭХНІЧНАЯ ФІЗІКА»**

**ДАРОЖКІН** Ніл Мікалаевіч — член-карэспандэнт

**КЛУБОВІЧ** Уладзімір Уладзіміравіч — член-карэспандэнт

**МІХАЛЕВІЧ** Аляксандр Аляксандравіч — член-карэспандэнт

**РУМАК** Мікалай Уладзіміравіч — член-карэспандэнт

***АДДЗЯЛЕННЕ ФІЗІКІ, МАТЭМАТЫКІ І ІНФАРМАТЫКІ***

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ІНФАРМАТЫКА»**

**ЗАКРЭЎСКІ** Аркадзь Дзмітрыевіч — член-карэспандэнт

**ЛАПАТО** Георгій Паўлавіч — член-карэспандэнт

**ЧАРНЯЎСКІ** Аляксандр Фёдаравіч — член-карэспандэнт

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ЛЮМІНЕСЦЭНЦЫЯ»**

**ГУРЫНОВІЧ** Георгій Паўлавіч — член-карэспандэнт

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «МАТЭМАТЫКА»**

**ІЗОБАЎ** Мікалай Аляксеевіч — член-карэспандэнт

**ШАМЯТКОЎ** Леанід Аляксандравіч — член-карэспандэнт

### КАНДЫДАТЫ Ў ЧЛЕНЫ-КАРЭСПАНДЭНТЫ АНБ:

***АДДЗЯЛЕННЕ ГУМАНІТАРНЫХ НАВУК***

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ГІСТОРЫЯ МАСТАЦТВА І ЭТНАГРАФІІ»**

**ДРОБАЎ** Леанід Міканоравіч — доктар мастацтвазнаўства

**ПІЛІПЕНКА** Міхаіл Фёдаравіч — доктар гістарычных навук

**САБАЛЕЎСКІ** Анатоль Вікенцьевіч — доктар мастацтвазнаўства

**СМОЛЬСКІ** Рычард Баляслававіч — доктар мастацтвазнаўства

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА»**

**ГНІЛАМЕДАЎ** Уладзімір Васільевіч — доктар філалагічных навук

**ДЗЮБАЙЛА** Павел Кузьміч — доктар філалагічных навук

**МАЛЬДЗІС** Адам Іосіфавіч — доктар філалагічных навук

**ТКАЧОЎ** Павел Іванавіч — доктар філалагічных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «МОВАЗНАЎСТВА»**

**АНІЧЭНКА** Уладзімір Васільевіч — доктар філалагічных навук

**БУЛЫКА** Аляксандр Мікалаевіч — доктар філалагічных навук

**БУРАК** Леанід Іванавіч — доктар філалагічных навук

**МІХНЕВІЧ** Арнольд Яфімавіч — доктар філалагічных навук

**ЦЫХУН** Генадзь Апанасавіч — доктар філалагічных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ПРАВА»**

**АБРАМОВІЧ** Аляксандр Міхайлавіч — доктар юрыдычных навук

**КРУТАЛЕВІЧ** Вадзім Андрэевіч — доктар юрыдычных навук

**СОКАЛ** Сцяпан Фёдаравіч — доктар юрыдычных навук

**ЦІХІНЯ** Валерый Гур'евіч — доктар юрыдычных навук

**ЮРКЕВІЧ** Мікалай Рыгоравіч — доктар юрыдычных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ЭКАНОМІКА»**

**ЗАЯЦ** Мікалай Емельянавіч — доктар эканамічных навук

**КАПІТУЛА** Пётр Андрэевіч — доктар эканамічных навук

**НІКІЦЕНКА** Пётр Рыгоравіч — доктар эканамічных навук

**ТАРАСАЎ** Уладзімімр Іванавіч — доктар эканамічных навук

**ШЫМАЎ** Уладзімір Мікалаевіч — доктар эканамічных навук

***АДДЗЯЛЕННЕ БІЯЛАГІЧНЫХ НАВУК***

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «БІЯХІМІЯ»**

**ВІНАГРАДАЎ** Уладзімір Віктаравіч — доктар біялагічных навук

**ЛАРЫН** Фёдар Сямёнавіч — доктар біялагічных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ЗААЛОГІЯ»**

**ПІКУЛІК** Міхаіл Міхайлавіч — доктар біялагічных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ЛЕСАЗНАЎСТВА»**

**ІПАЦЬЕЎ** Віктар Аляксандравіч — доктар сельскагаспадарчых навук

**ЛОЎЧЫ** Мікалай Фёдаравіч — доктар біялагічных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «МЕДЫЦЫНА»**

**ГРЫШЫН** Ігар Мікалаевіч — доктар медыцынскіх навук

**ЛАБКО** Пётр Іосіфавіч — доктар медыцынскіх навук

**ОЛЯШКЕВІЧ** Фёдар Васільевіч — доктар медыцынскіх навук

**РЫЦІК** Пётр Рыгоравіч — доктар медыцынскіх навук

**ФРАДКІН** Сямён Захаравіч — доктар медыцынскіх навук

**ШАНЬКО** Георгій Георгіевіч — доктар медыцынскіх навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ЭКАЛОГІЯ РАСЛІН»**

**БАГІНСКІ** Уладзімір Феліксавіч — доктар сельскагаспадарчых навук

**ГЕТКА** Нэлі Уладзіміраўна — доктар біялагічных навук

**ЛАМАН** Мікалай Апанасавіч — доктар біялагічных навук

**СЯРГЕЙЧЫК** Святлана Аляксандраўна — доктар біялагічных навук

**ЯКУШАЎ** Барыс Іванавіч — доктар біялагічных навук.

***АДДЗЯЛЕННЕ ХІМІЧНЫХ І ГЕАЛАГІЧНЫХ НАВУК***

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «АРГАНІЧНАЯ І БІЯАРГАНІЧНАЯ ХІМІЯ»**

**КАЗЛОЎ** Мікалай Гельевіч — доктар хімічных навук

**КУЛІНКОВІЧ** Алег Рыгоравіч — доктар хімічных навук

**ЛАХВІЧ** Фёдар Адамавіч — доктар хімічных навук

**ХРЫПАЧ** Уладзімір Аляксандравіч — доктар хімічных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ГЕАГРАФІЯ»**

**АНОШКА** Валерый Станіслававіч — доктар геаграфічных навук

**ВЕЛІЧКЕВІЧ** Фелікс Юльянавіч — доктар біялагічных навук

**КІСЯЛЕЎ** Віктар Нікіфаравіч — доктар геаграфічных навук

**ЛОГІНАЎ** Уладзімір Фёдаравіч — доктар геаграфічных навук

**ШЫРОКАЎ** Вячаслаў Міхайлавіч — доктар геаграфічных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ГЕАЛОГІЯ»**

**ДЗЕМІДОВІЧ** Леанід Аляксандравіч — доктар геолага-мінералагічных навук

**ЛЯЎКОЎ** Эрнст Аркадзьевіч — доктар геолага-мінералагічных навук

**МАХНАЧ** Анатоль Аляксандравіч — доктар геолага-мінералагічных навук.

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ФІЗІЧНАЯ ХІМІЯ»**

**АГАБЕКАЎ** Уладзімір Янокавіч — доктар хімічных навук

**БАЕЎ** Аляксей Кузьміч — доктар хімічных навук

**ВЕЧАР** Алім Аляксандравіч — доктар хімічных навук

**КРУЦЬКО** Мікалай Паўлавіч — доктар хімічных навук

**ЛЕСНІКОВІЧ** Анатоль Іванавіч — доктар хімічных навук

**ЦЯРЭНЦЬЕЎ** Авенір Афанасьевіч — доктар тэхнічных навук

***АДДЗЯЛЕННЕ ФІЗІКА-ТЭХНІЧНЫХ ПРАБЛЕМ МАШЫНАБУДАВАННЯ І ЭНЕРГЕТЫКІ***

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «МАШЫНАБУДАВАННЕ»**

**АМЕЛЬЧАНКА** Пётр Адамавіч — доктар тэхнічных навук

**БАЙКОЎ** Уладзімір Пятровіч — доктар тэхнічных навук

**БАЛАКІН** Васіль Аляксеевіч — доктар тэхнічных навук

**КРЭЎСУН** Эдуард Паўлавіч — доктар тэхнічных навук

**ПІНЧУК** Леанід Сямёнавіч — доктар тэхнічных навук

**ПРАХАРЭНКА** Пётр Пятровіч — доктар тэхнічных навук

**РУКЦЕШЭЛЬ** Алег Сцяпанавіч — доктар тэхнічных навук

**СКАРЫНІН** Юрый Васільевіч — доктар тэхнічных навук

**СКОЙБЕДА** Анатоль Ціханавіч — доктар тэхнічных навук

**ТАЧЫЦКІ** Эдуард Іванавіч — доктар тэхнічных навук

**ШАЎЧЭНКА** Васіль Савельевіч — доктар тэхнічных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ТЭХНАЛОГІЯ МАТЭРЫЯЛАЎ»**

**АНІШЧЫК** Віктар Міхайлавіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**ГАПАНОВІЧ** Людміла Іванаўна — кандыдат хімічных навук

**ГАРДЗІЕНКА** Анатоль Іларыёнавіч — доктар тэхнічных навук

**ДАРАШКЕВІЧ** Яўген Адамавіч — доктар тэхнічных навук

**КАРПЕНКА** Генадзь Дзмітрыевіч — доктар тэхнічных навук

**МАРУКОВІЧ** Яўген Ігнатавіч — доктар тэхнічных навук

**СТРУК** Васіль Аляксандравіч — доктар тэхнічных навук

**ЮРКЕВІЧ** Алег Раманавіч — доктар тэхнічных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ТЭХНІЧНАЯ КІБЕРНЕТЫКА»**

**БІРУКОЎ** Марат Паўлавіч — доктар тэхнічных навук

**МАНЬШЫН** Геральд Рыгоравіч — доктар тэхнічных навук

**МАРАЗЕВІЧ** Анатоль Мікалаевіч — доктар тэхнічных навук

**РАКОВІЧ** Аляксандр Гаўрылавіч — доктар тэхнічных навук

**РЫМСКІ** Генадзь Васільевіч — доктар тэхнічных навук

**СКЛЯРОЎ** Валерый Анатольевіч — доктар тэхнічных навук

**СУХАДОЛЬСКІ** Аляксандр Маркавіч — доктар тэхнічных навук

**ЯРМАШ** Мікалай Адамавіч — доктар тэхнічных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ЦЕПЛАФІЗІКА»**

**КРЫЛОВІЧ** Вікенцій Іванавіч — доктар тэхнічных навук

**ПАЎЛЮКЕВІЧ** Мікалай Уладзіміравіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**ФАМІН** Мікіта Аляксандравіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**ЦВЯРКОЎКІН** Барыс Яўгенавіч — доктар тэхнічных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ЭНЕРГЕТЫКА»**

**БАРАДУЛЯ** Валянцін Аляксеевіч — доктар тэхнічных навук

**БАШТАВОЙ** Віктар Рыгоравіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**ВАСІЛЬЕЎ** Леанард Леанідавіч — доктар тэхнічных навук

**ГАНЖА** Віталь Лявонцьевіч — доктар тэхнічных навук

**ДЗЕВОЙНА** Аляксандр Мікалаевіч — доктар тэхнічных навук

**ШАРАВАРАЎ** Георгій Аляксандравіч — доктар тэхнічных навук

**ЯКУШАЎ** Анатоль Паўлавіч — доктар тэхнічных навук

***АДДЗЯЛЕННЕ ФІЗІКІ, МАТЭМАТЫКІ І ІНФАРМАТЫКІ***

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «МАТЭМАТЫЧНАЯ КІБЕРНЕТЫКА»**

**ПАНАСЮК** Аляксандр Іванавіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**ТАНАЕЎ** Вячаслаў Сяргеевіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ОПТАЭЛЕКТРОНІКА»**

**КАРПУШКА** Фёдар Уладзіміравіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**КУХАРЧЫК** Пётр Дзмітрыевіч — доктар тэхнічных навук

**МАЛЕВІЧ** Ігар Аляксандравіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**РАДЗЬКО** Усевалад Пятровіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «СПЕКТРАСКАПІЯ»**

**ЖБАНКОЎ** Расціслаў Георгіевіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**САЛАЎЕЎ** Канстанцін Мікалаевіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**САМСОН** Андрэй Міхайлавіч доктар фізіка-матэматычных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ТЭАРЭТЫЧНАЯ ФІЗІКА»**

**БАРЫШЭЎСКІ** Уладзімір Рыгоравіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**БОГУШ** Андрэй Аляксандравіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ «ФІЗІКА ЦВЕРДАГА ЦЕЛА»**

**БАРЫСЕНКА** Віктар Яўгенавіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**ГУРСКІ** Леанід Ільіч — доктар тэхнічных навук

**КАМАРОЎ** Фадзей Фадзеевіч — доктар фізіка-матэматычных навук

**ШЫПІЛА** Віктар Браніслававіч доктар тэхнічных навук

**Л. М. СУШЧЭНЯ,**
**прэзідэнт АН Беларусі, акадэмік.**

**А. М. ГАНЧАРЭНКА,**
**галоўны вучоны сакратар прэзідыума АН Беларусі, акадэмік.**

